# КРЫВІНКА

САКАВІК
№ 4 (158)
2015 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА




МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

## МЯНЯЦЬ ТРЭБА ЎСЮ СІСТЭМУ…

**У каментарах да артыкула "Двор Нізгалаўскія праблемы", які быў размешчаны на сайце beshankovichy.by 27-га лютага, адзін з чытачоў напісаў мне наступнае:**

*"Паважаны Георгій. Вы цікава разважаеце на сваёй старонцы на розныя тэмы, усё і ўсіх крытыкуеце, скардзіцеся на бяздзейнасць чыноўнікаў. Гаварыць і скардзіцца можа кожны. Але хацелася б даведацца пра Ваш асабісты ўклад у рашэнне апісаных Вамі праблем. Хацелася б прачытаць пра Вашыя прапановы. Магчыма, Вы ведаеце выйсце з такога становішча.*

*Калі Вы здольныя бачыць праблемы людзей і ўсё разумееце, то можа б самі сталі кіраўніком і паказалі сваім асабістым прыкладам, як трэба працаваць. Вы напісалі, што пачыналі сваю працоўную дзейнасць у вёсцы Двор Нізгалава. Чаму ж Вы там не засталіся? Напэўна, адтуль паехалі ў пошуках лягчэйшага жыцця…"* ***Багдан.***

Дарагі Багдан! Адказваю на вашыя шматлікія пытанні.

Я – журналіст, сябра Беларускай асацыяцыі журналістаў. У сваіх артыкулах стараюся адлюстраваць рэчаіснасць аб'ектыўна, без скажэнняў. Калі пачну пісаць пра нешта, што не адпавядае рэчаіснасці, мяне могуць лёгка прыцягнуць да адказнасці. Таму ўсе факты, якія прыводзяцца мною, праўдзівыя.

Зразумела, што мог бы пісаць і пра тое, якая прыгожая наша беларуская прырода, якія цудоўныя нашыя людзі. Пішу пра гэта таксама, але толькі ў сваіх вершах. А проза жыцця, на вялікі жаль, такая, што ў нашай роднай краіне гаспадараць зусім не так, каб наша жыццё было прыгожым і шчаслівым.

Здаецца, што кожны чалавеку Беларусі можа на штосьці паўплываць, раскрыць свае здольнасці. Але гэта падманнае ўяўленне. У нашай краіне кіруе адзін чалавек, які стварыў для кіравання зручную яму сістэму. Зразумела, што і ў гэтай сістэме сустракаюцца здольныя людзі, але ж яны не маюць права праявіць нейкую ініцыятыву, каб выйсці за межы дазволенага, так бы мовіць, за сцяжкі.

У свой час каля 10-ці месяцаў пражыў у Нямеччыне (у ФРГ). Гэта найбольш развітая краіна Еўропы, дзе ўсе пытанні вырашаюцца зусім у іншай плоскасці, чым у нашай з вамі краіне. І галоўнае адрозненне паміж нашымі краінамі, што там чалавек адчувае сябе сапраўды абароненым законам, сапраўды разняволеным, сапраўды здольным уплываць на жыццё, у першую чаргу сваё. Там падтрымліваюцца любыя таленты, то бок людзі з неардынарнымі ідэямі. Таму заходняе грамадства пры ўсіх існуючых яго недахопах яшчэ здольнае развівацца.

Я б хацеў, каб у нашай Беларусі была падобная сістэма кіравання. Але калі я нават толькі паспрабую агучыць нейкія свае думкі, іх не толькі не пусцяць на старонкі афіцыйнай прэсы, у нас на іх адразу абрынецца шквал крытыкі. І зусім не канструктыўнай. Я акажуся аднačасова нацыяналістам, фашыстам, бандэраўцам і г. д. Вось Вам прыклад, як усё новае, прагрэсіўнае ў нас прабівае сабе дарогу.

Але і з гэтай уладай стараюся супрацоўнічаць. У мяне цудоўныя адносіны з старшынём райвыканкама Л.Пяньkoўскім. Часта тэлефаную яму на наўпроставую лінію, прапаную вырашыць нейкія праблемы, якія пасля сапраўды вырашаюцца. І гэта не толькі грайдараванне ці падсыпка дарог. Летась пасля маіх настойлівых званкоў было прынята рашэнне райвыканкама аб закрыцці Ранчыцкага сметніка, які атручваў цудоўны куток прыроды. Яшчэ раней, пасля нашай сумеснай паездкі на старыя габрэйскія могілкі, аб існаванні якіх старшыня райвыканкама і не падазраваў, у раёне былі зробленыя першыя крокі, каб навесці там парадак. А галоўнае, што праблема атрымала розгалас, і сёння з'явілася рэальная магчымасць вырашыць яе па-сапраўднаму. Вось у гэтым я бачу ролю журналіста ў грамадстве – звярнуць увагу на існаванне праблемы, і сачыць, як яна вырашаецца. Менавіта таму прэсу ў дэмакратычных краінах называюць чацвёртай уладай – пасля заканадаўчай, выканаўчай і судовай.

Вы, Багдан, маеце рацыю, калі кажаце пра тое, што я мог бы прынесці нейкую большую карысць раёну, калі б сам стаў кіраўніком і паказаў прыклад, як трэба працаваць. Дарэчы, я ўжо быў кіраўніком даволі высокага рангу – старшынём калгасу "Савецкая Беларусь" з 1986 па 1989 год. Менавіта туды мяне накіраваў Бешанковіцкі райвыканкам для ўзняцця ў той час найбольш адсталага калгаса нашага раёна. Так што я на практыцы рэалізоўваў свой патэнцыял. І магу Вам з асабістага вопыту распавесці пра тое, што ніводзін чалавек, які б здольным ён ні быў, не можа падняць з каленяў нашу сельскую гаспадарку, калі будзе працягвацца сённяшняя палітыка ўлады ў адносінах да яе.

А куды нам ісці далей? Пра мае канструктыўныя думкі ў адносінах да сельскай гаспадаркі вы можаце пачытаць на сайце beshankovichy.by. 11-га сакавіка 2014 года там быў апублікаваны мой артыкул "Як нам адрадзіць сяло". За гэты час артыкул прачытала 300 чалавек. І ніхто яго чамусьці не пракаментаваў. Пэўна, мае канструктыўныя думкі нікога асабліва не закранулі.

Дарэчы, гэты артыкул з'явіўся падчас майго чарговага ўдзелу ў нашых "выбарах". Справа ў тым, што апошнія 10 гадоў я рэгулярна выстаўляў сваю кандыдатуру ў якасці кандыдата ў дэпутаты па Пушкінскай выбарчай акрузе. Чаму Пушкінскай? Таму што якраз 10 гадоў людзі, якія там пражываюць, чытаюць газету "Крывінка" і, думаецца мне, у асноўным яе падтрымліваюць. Бо, калі яе некалькі разоў хацелі зачыніць, не знайшлося ніводнага свядомага чалавека, які б даў супраць яе паказанні. Але, нягледзячы на іх адсутнасць, наша ўлада рэгулярна пасля кожнага майго ўдзелу ў выбарах газету штрафавала на вялікія сумы – максімальна магчымыя.

Калі ўдзельнічаў у "выбарах", то паглядзеў знутры, як арганізавана наша выбарчая сістэма, і зразумеў, што існуючай уладзе не патрэбныя іншадумцы – людзі з іншым поглядам на рэчы (нават, калі тыя погляды прагрэсіўныя). Так ёй спакойней жывецца. А тое, што шматлікія людскія праблемы ў нашым грамадстве не вырашаюцца належным чынам, яе турбуе ў апошнюю чаргу.

У мяне была магчымасць застацца ў гэтай сістэме. Але ў свой час (ў 1990-м годзе) я дабраахвотна пакінуў высокую пасаду Першага сакратара райкама камсамола, пра што сёння ніколькі не шкадую.

Як жыць у нашых умовах паказваю асабістым прыкладам. Сёння ў мяне вялікая гаспадарка (тры каровы, пчолы), якая дае разы ў тры больш прыбытак, чым уся настаўніцкая праца на 1,5 стаўкі. Сродкаў для жыцця мне хапае.

А на настаўніцкую працу трапіў выпадкова. Пасля сыходу з камсамола даволі доўгі час (6 гадоў) працаваў у калгасе аграномам. Працаваў бы, мусіць, і сёння, каб не тагачасны старшыня бешанковіцкага райвыканкама Васіль Латушкін. Яму вельмі не падабалася мая самастойнасць у прыняцці любых рашэнняў, а менавіта такую самастойнасцю мяне надзяліў старшыня нашага калгаса Міхаіл Краўчанка. І гэтаму былі свае прычыны, бо ён неаднаразова ўпэніваўся ў маёй кампетэнтнасці.

Вось Вам толькі адзін прыклад. Наш калгас "20-ты з'езд КПСС" ніяк не мог здаць піваварны ячмень, бо сушылкі ў гаспадарцы былі дапатопныя, і зерне пасля сушкі мела пах няспаленага паліва (салярка). Я прапанаваў старшыні адправіць зерне проста з поля ад камбайнаў(вось дзе прыгадзіўся мой нямецкі вопыт). І я здолеў так наладзіць камбайны, што ячмень без чысткі і сушкі прынімаўся піваварнямі!

Пасля гэтага выпадку мы пачалі жаць толькі спелае зерне, эканомячы вялізарныя сродкі. Але ж раённаму начальству патрэбна была не наша эканомія, а прыгожая лічба ў справаздачы. Вось тады Латушкін і загадаў мне жаць няспелае зерне. Я адказаў яму, што пакуль што кірую тут я, а калі ён хоча пакіраваць, то магу звольніцца. "Можаш не выходзіць з заўтрашняга дня!" – так адрэагаваў старшыня райвыканкама.

Так што, Багдан, стасункі з гэтай уладай меў самыя шчыльныя і шмат свайго здароўя і кампетэнтнасці аддаў для нашага раёна.

Сёння мне 52 гады. Жыццё амаль што пражытае. Пра тое, што заўтра да ўлады ў Беларусі прыйдзе нейкі новы чалавек і мой велізарны вопыт камусьці спатрэбіцца, я не спадзяюся.

Я займаюся любімай справай: пішу вершы і перакладаю на беларускую мову з іншых моваў свету. З'яўляюся сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў, аўтарам чатырох апублікаваных (на свае грошы) кніжак.

Дарэчы, апошняя кніжка, куды ўвайшлі вершы і пераклады з чатырох моваў, зробленыя за апошнія два гады, атрымала станоўчую ацэнку ў літаратурных колах краіны. Але ў нашым раёне яна зноў-такі аказалася незапатрабаванай. У мяне былі прэзентацыі ў Шаркаўшчынскім і Аршанскім раёнах, у Віцебску, а вось у Бешанковічах – не. Калі раней мяне запрашалі ў школы і клубы, то зараз – поўнае маўчанне. Мусіць, маўчаннем у нашым раёне лепш выхоўваецца патрыятызм, а для выказвання сваёй любові да Радзімы чыноўнікам лепш падыходзіць мова краіны-суседкі.

Газета "Крывінка", якую я выдаю ўжо 10 гадоў, гэта – крык адзінокага ў пустыні. Але рады, што хоць такім чынам наша ўлада можа пачуць і мой голас, вырашыць нейкія пытанні, якія былі б замоўчаныя.

Буду рады, калі Вам штосьці растлумачыў.

**Г. Станкевіч**



## ЗІМА

*Сню снег.*
*Прачынаюся – бачу: падман.*
*Пачуваюся так, быццам мяне*
*абрабавалі злодзеі.*
*Іду па горадзе, дзе вечная зіма,*
*а снегу – няма!*
*У нас снег не ў модзе!*

*Ён толькі з нябёсаў збіраецца паляцець,*
*а яго ўжо пільнуе вялізная армія з мётламі.*
*Загад такі: "Вывезці снег далей ад людзей!"*
*І нашы вуліцы стаяць мёртвымі.*

*А людзі шэпчуцца:*
*"Жыць так цяжка… Наўкол*
*фарбы спрэс шэрыя і чорныя…"*
*Чорныя дні… шэрае неба… чорны дол…*
*Ідзе натоўп, а вочы ў людзей – памёрлыя.*

*І кожны разумее: "Не жыццё – турма."*
*А каб з яе вырвацца,*
*трэба проста расплюшчыць вочы.*
*Але такога жадання ў людзей няма:*
*правялі рэферэндум – 90 адсоткаў не хоча!*

*Людзі бачаць прыгожыя сны,*
*сняць зіму і снягі,*
*за Вялікае Княства Белае і Пушыстае*
*дзяруць горла,*
*Свабодзе, што калісьці настане,*
*гатовыя спяваць гімн,*
*а жывуць у краіне,*
*якая даўно памёрла.*

***Г. Станкевіч***

АХОВА ПРЫРОДЫ

# ПАТРЭБНА АРГАНІЗАТАРСКАЯ ПРАЦА

**Пачалася вясна, і пачалася ўсім вядомая “праца па навядзенню парадка” на зямлі. І горы смецця, якія ўзнікаюць каля чалавечага жылля, вывозяцца прэч з вачэй.**

Сёння раніцай я затрымаў трактар, які вёз смецце на зачынены сметнік у Старых Ранчыцах. Трактарыст паведаміў, што яго паслаў на сметнік кіраўнік ягонай арганізацыі з Бешанковічаў. Праўда, пасля тэлефоннай размовы з ім, трактарыст змяніў свой маршрут.

Але не факт, што ягоны прычэп са смеццем, як і сотні іншых, з’явіцца на палігоне бытавых адкідаў у Драздах. Такім палігонам вельмі часта становяцца любыя прыдарожныя кусты ці канава.

Што нам рабіць, каб папярэдзіць падобныя выпадкі? Актывізаваць працу ўсіх прыродаахоўных структураў. Школьнікі – якраз той кантынгент, якія бачаць у вёсцы ўсё і маюць дастаткова часу, каб заняцца працай па выяўленню парушэнняў прыродаахоўнага Закона. Яны зараз усе ўзброеныя мабільнікамі з фотакамерамі, і маглі б аказаць вялікае садзеянне ў папярэджанні засмечвання.

Выявіць злачынца, які разгружае транспартны сродаку недазволеным месцы, атрымаць за тое павагу, а, магчыма, і ўзнагароду – гэта дзейсны шлях да ліквідацыі недазволеных сметнікаў. Патрэбна толькі вялікая арганізатарская праца.

Але, калі ў школы пастаянна завітваюць супрацоўнікі міліцыі і МНС, то супрацоўнікі нашай прыродаахоўнай арганізацы адседжваюцца па кабінетах.

Між тым, плошча сметнікаў павялічваецца ў геаметрычнай прагрэсіі.

**Г.Станкевіч**

ЗДАРЭННІ

# З КРАДЗЯЖУ БАГАТЫМ НЕ СТАНЕШ

**8 сакавіка ў 19 гадзін у Бешанковіцкі РАУС звярнуўся беспрацоўны 1978 года нараджэння.**

Ён распавёў, што каля 18 гадзін неўсталяваны злачынец, выставіўшы аконнае шкло, пракраўся ў яго дом, і здзейсніў крадзеж зварачнага апарата. Прычыненая шкода склала 1,6 млн. рублёў.

Супрацоўнікамі РАУС папярэдне ўстаноўлена, што злачынства здзейсніў беспрацоўны, раней судзімы за крадзеж мясцовы жыхар 1985 нараджэння. 9-га сакавіка ўзбуджаная крымінальная справа па ч. 2 арт. 205 КК.

# ЗЛОДЗЕІ ЗАТРЫМАНЫ

**5 сакавіка ў 21 гадзіну ў Бешанковіцкі РАУС звярнулася пенсіянерка 1951 года нараджэння, жыхарка раённага цэнтра.**

Яна распавяла, што ў перыяд з 1 па 5 сакавіка неўсталяваны злачынец, выставіўшы аконную раму, пракраўся ў яе дачны дом, размешчаны ў вёсцы Ворохобки, і здзейсніў крадзеж асабістай маёмасці.

Нанесеная шкода склала 4,3 млн.рублёў. Супрацоўнікамі РАУС устаноўлена, што злачынства здзейснілі беспрацоўныя мясцовыя жыхары 1985 і 1977 года нараджэння. Узбуджаная крымінальная справа па ч. 2 арт. 205 КК.

**Паводле сайта МУС**

НАВІНЫ ЭКАНОМІКІ

# ВОСЕМЬ АРГАНІЗАЦЫЙ-ДАЎЖНІКОЎ

**Да КСПУП "Плісы-Агра", што было даўжніком ў лютым, дадалося яшчэ 7 сельскагаспадарчых прадпрыемстваў.**

По стане на 1 сакавіка 2015 пратэрмінаваная запазычанасць маецца ў наступных прадпрыемствах раёна: ААТ "Бешанковічы аграсэрвіс", КСПУП "Палітаддзелец-Агра", ААТ "Бачэйкава-Агра, КСПУП "Плісы-Агра",СХУП"Свіціна-ВМК",ЧСХУП "АграВітВін", ЗАТ "АСБ-Агра Наватар", СХУП "Вядзерава".

Колькасць арганізацый з пратэрмінаванай запазычанасцю па зарплаце ў Віцебскай вобласці за месяц вырасла больш чым у 2 разы - з 77 па стане на 1 лютага да 176 на 1 сакавіка.

Усяго ў Беларусі ў 510 арганізацыях мелася пратэрмінаваная запазычанасць па заработнай плаце перад 87,3 тыс. Работнікамі, такім чынам на Віцебскую вобласць прыходзіцца 34,5% арганізацый даўжнікоў. Сума пратэрмінаванай запазычанасці дасягнула 300,6 мільярдаў рублёў.

**М.Васільеў**

# НА ПАЖАРЫ ЗАГІНУЎ ЧАЛАВЕК

8-га сакавіка ў 20-41 паступіла паведамленне аб пажары ў жылым доме ў в. Вярхоўе Бешанковіцкага раёна. У выніку пажару ў доме, які належыць грамадзяніну 1956 г.н., сацыяльнаму работніку ТЦСАН г.п. Бешанковічы, знішчана маёмасць, пашкоджаны дах, столевае перакрыцце і сцены. На месцы пажару знойдзены труп сястры гаспадара 1961 г. н, беспрацоўнай. Прычына пажару высвятляецца.

**Паводле сайта МНС**

ПРАВЫ СПАЖЫЎЦОЎ

# ШТО ПАВІННЫ СПАКАВАЦЬ БЯСПЛАТНА?..

**Не раз заўважала ў краме карціну, калі хтосьці з пакупнікоў у мэтах эканоміі кладзе куплю ў прынесены з хаты фасовачны пакет. Яшчэ б, пакецік да пакеціка - у чэку набярэцца немалая сума. Але, на жаль, большасць пакупнікоў не ведаюць, а шматлікія прадаўцы "забываюць сказаць", што па законе для некаторых тавараў ўпакоўка прадастаўляецца бясплатна. Гэта значыць заплаціце вы за тару ці не, залежыць ад таго, што вы ў яе пакладзеце.**

Такая норма вызначаная пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 22 ліпеня 2014 №703. Хоць яна была і раней сфармулявана ў артыкулах Грамадзянскага кодэкса №№ 451 і 452. Першая кажа пра тое, што прадавец абавязаны перадаваць тавар пакупніку ў тары, якая забяспечвае яго захаванасць, а другая - што іншы падыход расцэньваецца як передача прадукцыі неналежнай якасці. Але прадаўцы гэтае правіла часцяком ігнаравалі, а пакупнікі і зусім не здагадваліся пра яго існаванне. Цяпер жа кіраванне гандлю і паслуг Віцебскага аблвыканкама, дзейнічаючы ў мэтах абароны правоў спажыўцоў, заклікае звярнуць на дадзеную норму асаблівую ўвагу.

- У адпаведнасці з пунктам 25 Правілаў продажу асобных відаў тавараў і ажыццяўлення грамадскага харчавання, зацверджаных вызначанай раней пастановай, прадавец абавязаны перадаць пакупніку тавары ў тары і (або) ўпакоўцы, за выключэннем тавараў, якія па сваім характары не патрабуюць затарвання, - адзначыла начальнік упраўлення гандлю і паслуг аблвыканкама Ірына Ляўковіч. - Пры гэтым тавары перадаюцца пакупніку ва ўпакаваным выглядзе без спагнання дадатковай платы за ўпакоўку, выгляд якой вызначаецца прадаўцом. Гэта значыць, у гандлёвым аб'екце самі вырашаюць, якую тару зрабіць бясплатнай. Гэта могуць быць поліэтыленавы пакет, папера, харчовая плёнка, кантэйнер, ланч-бокс ці іншае, што забяспечыць захаванасць і цэласнасць тавару. Выключэннем па законе з'яўляюцца толькі упакоўкі для тартоў, набораў пірожных і напояў, якія прадаюцца ў разліў, кошт якіх ўключаецца ў раздробны кошт тавараў.

Такім чынам, што ж нам, пакупнікам, павінны спакаваць бясплатна? Гаворка ідзе пра прадукты, якія нельга проста перадаць з рук у рукі. З ліку харчовых тавараў запатрабуюць абавязковай ўпакоўкі вагавыя вырабы ва ўпакоўцы вытворцы, то-бок каўбасныя, цукровыя кандытарскія вырабы, сыры і да т.п. у абалонцы, абгортцы, плёнцы, пергаменце, паперы і іншых ўпаковачных матэрыялах, хлебабулачныя вырабы, у тым ліку ва ўпакоўцы вытворцы, у выпадку іх разразання на часткі. У прынцыпе, да першага мы прывыклі: адрэзаўшы кавалачак каўбасы або сыру, прадавец заварочвае яго ў харчовую плёнку. Селядзец, цукеркі на вагу, печыва, сухафрукты, арэшкі - усё гэта таксама пакуецца бясплатна. Таксама бясплатна затарвацьхлеб і батон, калі яны на прылаўку без пакавання. Пакет малака або цукар у папяровай ўпакоўцы не патрабуюць затарвання: яны ўжо спакаваныя вытворцам. Калі ж вы баіцеся, што нешта пацячэ або рассыплецца і бераце дадаткова фасовачны пакет, яго кошт вы знойдзеце ў чэку.

Цяпер пра гароднінуі садавіну. Запомніце: за пакет прыйдзецца заплаціць толькі ў тым выпадку, калі яны буйныя з цвёрдай лупінай, такія, як ананасы, кавуны, дыні, гарбузы, авакада, манга, памялцо і іншыя, а таксама капуста. Гэта значыць грушы, яблыкі, хурма пакуюцца без збірання платы. Аднак звярніце ўвагу на тое, што, напрыклад у «Еўраопце» меншыя пакеты прадастаўляюцца бясплатна, а большыя - ужо платна, і тут прадавец мае рацыю, ён сам мае права вызначаць від бязвыплатнай упакоўкі. Пры рэалізацыі прадукцыі ўласнай вытворчасці прадавец таксама абавязаны падаць бясплатную ўпакоўку, але будуць гэта поліэтыленавыя пакеты альбо скрынкі, ён агаворвае сам. Напрыклад, прадавец вырашыў, што бясплатным будзе пакет. Тады калі вы купляеце ў кулінарыі разважную салату і просіце яе пакласці ў пакет, ён будзе бясплатным, калі захочаце скрынку - за яе ўжо прыйдзецца заплаціць.

Зараз разбяромся з нехарчовымі таварамі. Патрабуюць затарвання пры адсутнасці ўпакоўкі вытворцы тавары, якія могуць быць пашкоджаны (разбітыя), забруджаныя пры транспартоўцы. Гэта пасцельная і споднія бялізна, панчошна-шкарпэткавыя вырабы, посуд са шкла і фарфору, навагоднія цацкі і да т.п. А таксама цвёрдае гаспадарчае мыла і іншыя тавары, якія могуць забрудзіць або пашкодзіць рэчы пакупніка. Акрамя таго, вам абавязаны спакаваць гузікі, кнопкі, цвікі, шрубы, фурнітуру, бігудзі, прышчэпкі і падобныя дробныя вырабы. І, вядома, метражныя тавары: тканіны, палотны, мех штучны, стужкі, карункі, тасьму і г.д. У што спакуюць - справа прадаўцоў. Да прыкладу, у Віцебскім універмагу па-старому вам купленае загорнуць у кавалкі шэрай паперы. Танна і практычна. Але, шчыра кажучы, не вельмі прыгожа і ўжо напэўна незразумела для замежных гасцей абласнога цэнтра. Ідэальнымі былі б папяровыя пакеты, вытворчасць якіх, дарэчы, на думку экспертаў, танней, чым поліэтыленавых, ужо не кажучы пра плюсы ўтылізацыі.

Аматарам агародных спраў варта ведаць, што бясплатна затарваюцца цыбуліны раслін, расада, насенне, пасадачныя матэрыял і інш. Так, і корм для жывёл і птушак.

- Калі гандлёвы аб'ект не падае такой паслугі, то парушае правы спажыўцоў. За гэта прадугледжанаўмерапакаранне - штраф да 10 базавых велічынь на фізічную асобу, гэта значыць на прадаўца, - падкрэсліла Ірына Ляўковіч. - Адзначу, што многія крамы Віцебскай вобласці, гандлёвыя сеткі ўжо пераходзяцьнапрадугледжаныя дадзеным становішчам ўмовы працы. Аднак далёка не ўсё. Гэта датычыцца і прадаўцоў на рынках.

У заключэнне хочацца сказаць, што такія правілы гандлю ўжо даўно дзейнічаюць у многіх краінах свету. Пакласці набыцьцё ў бясплатны папяровы пакет, ўсміхнуцца і сказаць «Дзякуй за куплю!» - Гэта якасць сэрвісу, культура абслугоўвання, клопат аб пакупніках, дробязь, якая прыемная. З такіх дробязяў складваецца ў выніку імідж гандлёвага аб'екта і колькасць наведвальнікаў, якія захочуць туды вярнуцца.

**Вольга Маслоўская**
**“Витебские вести”**

## АБ’ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Крывінка» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

*• Калі прачыталі “Крывінку”, то калі ласка, перадайце знаёмым.*

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamnikat.org/kryvinka.html каталагу “Пэрыёдыка” для далейшага выкарыстання яшчэ да з’яўлення газеты на паперы.*

АДЗІНАЯ ВАЛЮТА

# МУХІ АСОБНА — 2

**Пуцін не кідае надзеі на эканамічную экспансію постсавецкай прасторы. Створаны нядаўна ЕАЭС надаў імпэту расійскаму прэзідэнту па пашырэнні ўплыву на сябраў ЕАЭС, Мытнага саюза і яшчэ шматлікіх агульных арганізацый. Але новага ён не прыдумаў.**

Пуцін вярнуўся да старой ідэі агульнай валюты. Яшчэ пры абмеркаванні стварэння самога ЕАЭС у мінулым годзе эксперты і палітыкі ставілі пад сумнеў з'яўленне такой грашовай адзінкі. Казалася пра тое, што яна можа з'явіцца не раней за 2025 год.

Аднак расійскі кіраўнік спяшаецца, і на тыдні ён даручыў свайму Цэнтрабанку і ўраду прапрацаваць мэтазгоднасць стварэння валютнага саюза ў рамках ЕАЭС. «Банку Расіі сумесна з урадам РФ ва ўзаемадзеянні з цэнтральнымі (нацыянальнымі) банкамі дзяржаў-сябраў Еўразійскага эканамічнага саюза вызначыць далейшыя напрамкі інтэграцыі ў валютнай і фінансавай сферах у рамках ЕАЭС з прапрацоўкай мэтазгоднасці і магчымасці стварэння ў перспектыве валютнага саюза», — гаворыцца ў даручэнні Пуціна.

Адрапартаваць пра выкананне даручэння кіраўнік урада Расіі Дзмітрый Мядзведзеў і кіраўнік ЦБ РФ Эльвіра Набіуліна павінны да 1 верасня 2015 года.

Такая паспешлівасць расійскага прэзідэнта відавочна збянтэжыла ягоных калегаў у Казахстане і Беларусі. Намер утварыць валютны саюз у рамках ЕАЭС прысутнічаў у праекце дэкларацыі аб еўразійскай эканамічнай інтэграцыі з паметкай «прапанова расійскага боку, казахстанскі бок супраць». У канчатковым тэксце дэкларацыі, падпісаным прэзідэнтамі трох краін 18 лістапада 2011 года, паказваецца толькі «паглыбленне супрацоўніцтва ў валютнай сферы».

Падчас прэс-канферэнцыі пасля падпісання дэкларацыі Назарбаеў растлумачыў, што гаворка ідзе аб пашырэнні выкарыстання нацыянальных валют ва ўзаемным гандлі трох краін з магчымым у перспектыве «выхадам на нейкую адзінку ў сэнсе валюты», пры гэтым пазначыўшы, што ні адна валюта краін-удзельніц ЕАЭС не падыходзіць на гэтую ролю.

Што да пазіцыі па гэтым пытанні Аляксандра Рыгоравіча, то 29 студзеня падчас вялікай прэс-канферэнцыі ён казаў, што пытанне адзінай валюты ў межах ЕАЭС «у парадку дня не стаіць». Наш кіраўнік растлумачыў, што для разгляду «адзінавалютнага» пытання трэба спачатку вырашыць увесь комплекс эканамічных пытанняў, у тым ліку і тых, якія ў межах стварэння ЕАЭС былі адкладзеныя да 2025 года. Вось калі з імі разбярэмся — можна і пра алтын падумаць.

«Але не думаю, што гэта будзе заўтра і пры маім прэзідэнцкім жыцці», — дадаў Лукашэнка. Улічваючы, якім чынам працягваецца прэзідэнцкае жыццё Аляксандра Рыгоравіча, то гэтая фраза фактычна азначае — ніколі.

Па меркаванні эканамістаў, пытанне пра адзіную валюту ў межах ЕАЭС, які працуе ўсяго два з паловай месяцы, сапраўды недарэчнае. Нават у варунках значна больш абкатанага Мытнага саюза адзіная валюта ёсць праблемай.

Эканаміст Сяргей Чалы зазначае: пакуль не выкананы ніводзін з шэрагу крытэраў, якіх павінна дасягнуць інтэграцыйнае аб'яднанне, каб у ім можна было ўводзіць агульную валюту. Найперш неабходна, каб паміж краінамі, якія ўтвараюць валютны саюз, былі вялікія аб'ёмы гандлю. Зараз жа нават у межах Мытнага саюза доля ўнутранага гандлю паміж «саюзнікамі» не тое што не расце, а нават скарачаецца. З «трэцімі краінамі» мы гандлюем больш, чым з «саюзнікамі». Таксама добра было б, каб у краін, якія ствараюць валютны саюз, былі сінхранізаваныя бізнэс-цыклы, то бок спады і ўздымы эканомікі. Гэтага амаль немагчыма дамагчыся, калі Казахстан і Расія — сыравінныя, а эканоміка Беларусі — цалкам перапрацоўчая. І апошні пункт самы важны: адзіны Цэнтрабанк і адзіная грашова-крэдытная палітыка.

Нагадаем, што яшчэ ў 2002 годзе ішлі размовы пра адзіную валюту Беларусі і Расіі. Расія настойвала, каб Цэнтрабанк быў адзін, і ён быў бы ў Маскве. З гэтым катэгарычна не пагаджаўся Аляксандр Рыгоравіч. Па ягоным меркаванні, эмісійных цэнтраў павінна было быць два — у Маскве і Мінску. То бок, каб Мінск таксама мог бы друкаваць грошы Саюзнай дзяржавы. На гэта Масква пагадзіцца не магла катэгарычна — бескантрольны друк грошай у Мінску мог абрынуць усю расійскую эканоміку.

Менавіта ў гэтым загваз праект Канстытуцыйнага акту Саюзнай дзяржавы. Менавіта з-за гэтага тады раз'юшыўся Уладзімір Уладзіміравіч. Менавіта тады ён параіў Аляксандру Рыгоравічу падумаць, чаго ён хоча: інтэграцыі ў Расію, альбо нечага іншага? Ён нагадаў, што эканоміка Беларусі — гэта 3% ад эканомікі Расіі, і зазначыў, што нельга спрабаваць аднавіць СССР за кошт эканамічных інтарэсаў Расіі. І тады ж прамовіў вядомую сваю крылатую фразу: «Мухі асобна — катлеты асобна».

Зараз Пуцін, не параіўшыся з калегамі, пачаў новую фазу ўводу «адзінай валюты». І зараз жа Лукашэнка з Назарбаевым могуць прыгадаць яму ягоныя ж словы пра мух і катлет. Мауляў, пакуль не будуць канчаткова знятыя абмежаванні ў гандлі, пакуль нафта ў Расіі і Беларусі не будзе каштаваць аднолькава — выбачайце, якая можа быць адзіная валюта? Мухі асобна — катлеты асобна.

**Сяргей Пульша**
**«Новы час»**




БЕЛАРУСЬ — ЗША

# КОШТ АЎТАРЫТАРНАЙ СТАБІЛЬНАСЦІ

**Дзяржаўны дэпартамент ЗША адмяніў санкцыі ў дачыненні да "Беларуснафты", якія дзейнічалі ад 29 сакавіка 2011 года. Чаму гэта адбылося? Ці пойдзе на адмену санкцый ЕС? Пра гэта разважае палітолаг Валерый Карбалевіч.**

Рашэнне пра адмену санкцый да "Беларуснафты" за подпісам памочніка дзяржсакратара ЗША ў пытаннях эканомікі і бізнэсу Курта Тонга апублікаванае ў Федэральным рэгістры.

Як адзначаецца ў дакуменце, дзяржаўны сакратар ЗША прыняў рашэнне зняць санкцыі, накладзеныя ў адпаведнасці з Актам аб санкцыях у дачыненні да Ірана ад 1996 года, з рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Беларуснафта" ў звязку з тым, што кампанія больш не займаецца дзейнасцю, якая падпадае пад санкцыйныя абмежаванні, а таксама атрыманы гарантыі, што яна не будзе займацца падобнай дзейнасцю ў будучыні. Такім чынам, адзначаецца ў паведамленні, некаторыя санкцыі, уведзеныя датычна "Беларуснафты" 29 сакавіка 2011 года, больш не дзейнічаюць.

Што ў больш шырокім сэнсе адзначае гэты крок з боку ЗША?

На думку палітолага Валерыя Карбалевіча, пэўным чынам на такое рашэнне паўплывала і атмасфера нармалізацыі адносінаў паміж Захадам і Беларуссю.

— Па-першае, гэтая атмасфера, якую зафіксаваў пры канцы лютага высокапастаўлены прадстаўнік Дзярждэпартамента ЗША Эрык Рубен, які ўпершыню сустрэўся з Лукашэнкам. Рубен заявіў, што цяпер адносіны ЗША з Беларуссю будуць развівацца паралельна з патрабаваннямі ЗША датычна правоў чалавека. Калі раней адно з другім жорстка ўвязвалася, ставілася ўмова, што калі ўмовы з правамі чалавека не палепшацца, тады не будзе паляпшэння стасункаў у іншых сферах, то цяпер такой увязкі няма.

Другі чыннік — гэта тлумачэнне Дзярждэпа, што цяпер няма супрацоўніцтва беларускіх кампаніяў з іранскімі — тымі, адносна якіх была ўведзена забарона. Гэта лагічна, таму што ўзровень дачыненняў Беларусі з Іранам зменшыўся пасля сыходу са сваёй пасады прэзідэнта Махмуда Ахмадзінежада. І, нарэшце, трэцяя прычына — гэта размарожванне адносінаў паміж ЗША і Іранам, што выклікала змякчэнне ці адмову некаторых санкцыяў з боку Злучаных Штатаў адносна Тэгерана.

***— Але ж санкцыі супраць афіцыйнага Мінска ўводзіў і Еўрасаюз. Як быць з імі? Ці не стане прыклад ЗША штуршком і для ЕС, каб пачаць адмену санкцыяў у дачыненні да Беларусі?***

— Зараз цяжка даваць прагнозы. Там цяпер ідзе дыскусія, і, як мне падаецца, прадстаўнік міністэрства замежных спраў Латвіі заявіў, што гэтыя санкцыі будуць адмененыя ў першым паўгоддзі. Дыскусія ідзе, і гэта таксама вельмі важны паказнік таго, што нешта мяняецца.

***— Чым жа абумоўлена змена стаўлення ЗША і Еўропы да афіцыйнага Мінска? Хіба становішча тут істотна палепшала?***

— Унутры Беларусі сітуацыя ніяк не змянілася. Хутчэй наадварот — шрубы зацiскаюцца. Але ж змянілася геапалітычная сітуацыя ў рэгіёне. Украінскі крызіс паўплываў на тое, што геапалітыка выйшла на першы план, а праблема каштоўнасцяў — правоў чалавека і дэмакратыі — адышла ў бок. На гэтым тле стаўленне да Беларусі мяняецца, больш цэніцца беларуская стабільнасць, высвятляецца, што дэмакратызацыя часта вядзе да дэстабілізацыі. Гэта назіраецца і на прыкладзе Украіны, і тых краінаў, якія перажылі "арабскую вясну".

Гэта трывожыць Захад, таму стабільнасць, нават аўтарытарная, стала цаніцца больш, чым раней. Да таго ж, параўнальна з Пуціным Лукашэнка ўжо не самы горшы дыктатар. І стаўленне Беларусі да ўкраінскага крызісу, спроба захаваць нейтралітэт у гэтым канфлікце таксама ацэньваецца Захадам станоўча. Вось усе гэтыя чыннікі і вядуць да таго, што адбываецца працэс, як сказала Майра Мора (пасол ЕС у Беларусі. — заўвага Г. К.), да нармалізацыі. Я б назваў гэты працэс размарожваннем адносінаў.

Нагадаем, санкцыі ў адносінах да "Беларуснафты" былі накладзены Дзярждэпартаментам ЗША ў сакавіку 2011 года з прычыны кантракта беларускага прадпрыемства з іранскай кампаніяй NaftIran Intertrade. У тым годзе ВА "Беларуснафта" заключыла кантракт з NaftIran Intertrade Company на 500 мільёнаў доляраў ЗША для распрацоўкі нафтавага радовішча Джойфер. Закон ад 1996 года прадугледжвае накладанне санкцыяў на кампаніі, якія інвеструюць у Ірак больш за 20 мільёнаў доляраў.

**Генадзь Кеснер**
**«Новы час»**

ПЛАНЫ ЎЛАДАЎ

# ОПЯТЬ ШОК БЕЗ ТЕРАПИИ

**Правительство приняло программу деятельности на 2015 год. Эксперты не находят в ней конкретики и называют планы «шоком без терапии».**

**Новые планы правительства**

Программа деятельности правительства утверждена постановлением Советам министров № 100 от 18 февраля 2015 года. Документ состоит из семи глав и охватывает все направления работы правительства: от макроэкономической политики до охраны окружающей среды.

Главной целью деятельности правительства на 2015 год определено «обеспечение макроэкономической и социальной стабильности в условиях нарастания внешних вызовов и угроз, качественное завершение текущей пятилетки и создание условий для динамичного экономического развития Беларуси в 2016-2020 годах и долгосрочной перспективе».

В числе важнейших задач — проведение эффективной макроэкономической и денежно-кредитной политики, действенная антиинфляционная политика, развитие конкуренции, малого и среднего предпринимательства, наращивание и диверсификация экспорта и прочее.

В программе указаны сценарии развития экономики страны на текущий год в зависимости от цены на нефть и динамики курса российского рубля. В качестве базового принят сценарий, который предполагает среднегодовую цену нефти на мировых рынках в 50 долларов за баррель, среднегодовой курс российского рубля — 61,5 рубля за доллар.

Как отмечает пресс-служба Совета министров, мероприятия программы носят характер прямого действия и не требуют разработки дополнительных планов по их реализации на уровне правительства.

**Пожарная программа без конкретики**

Эксперты критикуют принятую правительством программу за отсутствие конкретики.

«Она практически не содержит никаких цифровых отсылок, количественных и качественных показателей, по выполнению которых можно было бы судить об эффективности правительства в 2015 году», — говорит руководитель научного исследовательского центра Мизеса Ярослав Романчук.

По его мнению, программа, в которой нет даже количественного ориентира по инфляции на 2015 год, является «очень слабой», а возможное достижение к 2020 году темпов роста цен ниже 10% в год указывает на «хроническую слабость документа».

Экономист удивлен тем фактом, что в программу включены отдельные предприятия, для которых в сложные для белорусской экономики времена предусмотрена государственная поддержка. Речь, к примеру, идет об ОАО «Лакокраска» и ОАО «Завод горного воска».

«За 20 лет они не стали устойчивыми и продолжают тянуть деньги из бюджета, а власти ничего другого не придумали, как предоставлять им льготы. Это является форменным безобразием», — считает Ярослав Романчук.

Действия по развитию малого и среднего бизнеса, прописанные в документе, он считает декларативными.

«Ничего нет ни про аренду, ни про налоговую нагрузку, ни про права собственности и так далее. Никакой конкретики, но от слов халва слаще во рту не становится», — отмечает руководитель научного исследовательского центра Мизеса.

В целом он считает, что принятая программа предназначена, скорее, для пожарного, ситуативного реагирования, а не для серьезной работы по восстановлению стабильности белорусской экономики.

«Документ — формальный, поверхностный, неконкретный. У меня такое ощущение, что план делали на коленке», — говорит экономист.

**Шок без терапии**

Научный сотрудник Белорусского экономического исследовательско-образовательного центра (BEROC) Дмитрий Крук характеризует принятую программу как готовность правительства пойти на ограничение роста для недопущения новых финансовых потрясений.

При этом, по его словам, ограничительные меры не предполагают последующих или одновременных институциональных изменений.

«Они, скорее, постулируются как временные, вынужденные меры. Впоследствии подразумевается возможный возврат к ним. В 2011 году экс-глава Национального банка Станислав Богданкевич охарактеризовал обнародованный правительством антикризисный план как шок без терапии. В какой-то мере эта аналогия применима и здесь», — считает экономист.

Дмитрий Крук видит смысл в шоковых, ограничительных действиях в случае, когда сегодняшние показатели приносятся в жертву будущему росту, но такового на основе принятой программы не просматривается.

«Вполне вероятно, что будет более долгосрочная стратегия, где более подробно будут обсуждаться институциональные реформы, но из этого документа я таковых не вижу», — отмечает эксперт.

**Александр Ярошевич**

ЭКАНАМІЧНЫ РОСТ

# ЧАТЫРЫ ПРЫНЦЫПЫ ПРЫВАТЫЗАЦЫІ

**4 сакавіка ў офісе Руху “За Свабоду” адбылося абмеркаванне магчымых агульных падыходаў да прыватызацыі апазіцыйных сіл у межах супрацоўніцтва “Паглыблены дыялог”.**

Дыскусіі папярэднічаў выступ вядомага эканаміста Сяргей Чалага. Ён адзначыў, што сёння мы хутчэй назіраем працэс рэпрыватызацыі, калі дзяржава вяртае сабе ў рукі часткова прыватызаваныя раней прадпрыемствы.

На думку эксперта, цяперашні крызіс вымагае пэўных захадаў – у тым ліку датычна буйных дзяржаўных прадпрыемстваў, з дапамогай прыватызацыі якіх можа быць забяспечаны эканамічны рост. Цяпер жа яны пераважна працуюць неэфектыўна, і пры гэтым на іх робяцца вялікія фінансавыя ўліванні дзеля перадухілення беспрацоўя і сацыяльнай нпружанасці. Насамрэч, па сутнасці, заробкі на стратных прадпрыемстваў выглядаюць як дапамога па схаваным беспрацоўі.

Аднак перад правядзеннем прыватызацыі перадусім неабходна выявіць дзяржаўныя прадпрыемствы-зомбі альбо жывыя, што можна зрабіць, скарачаючы субсідаванне. Прычым часу не так шмат, бо шэраг прадпрыемстваў могуць стаць нерэфармавальнымі.

Намесніца старшыні Руху “За Свабоду” Галіна Скараход па выніках дыскусіі прадстаўнікоў апазіцыі распавяла Рух.by, што агульная мэта прыватызацыі – гэта падвышэнне эфектыўнасці эканомікі, і з гэтым усе пагадзіліся:

"Удзельнікі абмеркавання таксама падтрымалі чатыры прынцыпы прыватызацыі, - дадала яна. - Праца прыватызацыі павінна рэгулявацца законам. Прыватызацыя павінна быць празрыстай, у ёй не павінна быць карупцыйных схемаў. І нарэшце, патрэбныя рэальная ацэнка аб'ектаў прыватызацыі і адкрытая канкурэнцыя сярод пакупнікоў".

Галіна Скараход патлумачыла, што прадстаўнікі апазіцыі дамовіліся, што ў выпрацоўцы агульнага дакументу вырашылі выкарыстаць новыя падыходы: будуць выкладзеныя усе выказаныя пазіцыі, першымі будуць ісці прынцыпы, якія падтрымалі ўсе, затым кампрамісныя рашэнні, а апошнімі – тыя, па якіх дамовіцца не атрымаецца.

Удзельнікі "Паглыбленага дыялогу" цяпер узялі паўзу для працы з дакументам, дадала намесніца старшыні Руху "За Свабоду", наступная сустрэча пройдзе ў другой палове сакавіка.

**Рух.by**

ПЕРАДАВЫ ГАНДАЛЬ

# «ЕЎРАОПТ» СТАВІЦЬ ЗАДАЧУ ВЫРАТАВАЦЬ ПАКУПНІКОЎ

**Кампанія «Еўрагандаль» падвяла вынікі 2014 года і распавяла аб планах на перспектыву. Буйны беларускі рытэйлер мае намер фарсіраваць магчымы «эканамічны шок» пакупнікоў ад крызісу за кошт самых нізкіх коштаў.**

На канец 2014 раздробная сетка кампаніі «Еўрагандаль» налічвала 300 гандлёвых аб'ектаў па ўсёй краіне агульнай плошчай звыш 528 тыс. кв.м.

Колькасць супрацоўнікаў з улікам дачычных кампаній склала 31297 чалавек. «Еўрагандаль» з'яўляецца самым буйным працадаўцам у Беларусі.

Гандлёвыя плошчы сеткі выраслі на 65% - з 130,2 тыс. кв.м. у 2013 годзе да 214,7 тыс. кв.м. ў 2014 годзе.

Колькасць чэкаў ў 2014 годзе ў параўнанні з 2013 годам вырасла на 43% і склала больш за 200 млн.

Па папярэдніх дадзеных, выручка кампаніі па міжнародным стандартам фінансавай справаздачнасці (МСФС, без ПДВ) у 2014 вырасла на 35% да 2,26 млрд. даляраў. Валавы прыбытак у адпаведнасці з МСФС павялічылася на 43% да 527 млн. даляраў.

«Для нашай кампаніі адной з стратэгічных задач на 2015 год з'яўляецца якаснае ўдасканаленне гандлёвай сеткі« Еўраопт »: праца з пакупнікамі, правядзенне маркетынгавых акцый, тэхналагічнае перааснашчэнне раней пабудаваных гандлёвых аб'ектаў, удасканаленне дзейнасці участкаў ўласнай вытворчасці, павышэнне якасці прадукцыі і агульнага ўзроўню гандлёвых паслуг», - адзначыў старшыня савета дырэктараў ТАА «Еўрагандаль» Андрэй Зубкоў.

Ва ўмовах складанай эканамічнай сітуацыі ў краіне і на валютным рынку, зніжэння дзелавой і пакупніцкай актыўнасці кампанія «Еўрагандаль» мае намер канкураваць за кошт даступных цэн.

«Стратэгія кампаніі мяркуе самыя нізкія цэны на рынку, тым самым у выпадку наступу «эканамічнага шоку» насельніцтва будзе імкнуцца да скарачэння выдаткаў. Удадзенай сітуацыі крамы «Еўраопт» будуць найбольш прывабнымі для насельніцтва», - адзначаюць у кампаніі.

Цяпер «Еўрагандаль» пільней прыглядаецца да расійскага рынку. Як кажа намеснік генеральнага дырэктара па інвестыцыях «Еўрагандаль» Андрэй Мацявін, разам з літоўскім рынкам гэты рынак уяўляе пэўную цікавасць, дзе «ёсць магчымасць эфектыўна канкураваць на гэтым досыць канкурэнтным рынку».

«Казаць аб стратэгіі і планах па актыўнага нарошчвання крамаў пакуль рана. У кантэксце IPO (першаснае публічнае размяшчэнне акцый. - Nav-iny.by) мы пакуль не ўпэўнены, ці з'яўляецца актыў у Расіі для нас плюсам ці не », - падкрэсліве топ-менеджэр« Еўрагандаль ».

На канец 2014 года ў Расеі сетка крам «Еўрагандаль» налічвала 26 гандлёвых аб'ектаў. Аналагічная колькасць крам пад гандлёвай маркай Fresh market працавала ў Літве.

Па некаторых аперацыйных паказчыках «Еўраопт» апярэджвае расійскія розничныя сеткі. Так, сярэдні чэк у супермаркетах «Еўраопт» складае 12,2 даляра. У супермаркетах расійскіх рытэйлераў «Магніт» і X5 Retail Group гэты паказчык роўны адпаведна 10,9 і 11,4 даляра. У гіпермаркетах «Еўраопта» сярэдні чэк складае 29,3 даляра, «Магніта» - 15,3 даляра, X5 Retail Group - 16,7 даляра.

«Еўраопт» апярэджвае расійскіх рытэйлераў таксама па продажах з 1 кв.м гандлёвай плошчы. Так, у супермаркетах сеткі гэты паказчык роўны 16 тыс. даляраў, у «Магніта» - 9,7 тыс. даляраў, у X5 Retail Group - 7,5 тыс. даляраў.

За апошнія пяць гадоў у будаўніцтва і мадэрнізацыю гандлёвых аб'ектаў сеткі «Еўраопт» было інвесціравана больш за 900 млн. Даляраў.

**Александр Ярашэвіч**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 16.03.2015 у 17.10**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.